Cena 60 gr.
Цана 60 гр.




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА
ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (176) БЕЛАСТОК. 12 ЛІПЕНЯ 1959 года ГОД

# АДОЗВА

## Грамадзяне!

**Набліжаецца знамянальная дата ў жыцці Польскай Народнай Рэспублікі — XV гадавіна вызвалення і стварэння народнай улады.**

**Цэлая краіна з вялікім уздымам рыхтуецца да гэтага радаснага свята. За 15 год народнай улады працоўныя нашай краіны атрымалі шмат перамог і ўпэўненым крокам ідуць у светлую сацыялістычную будучыню.**

**У гэтым маршы побач з палякамі плячо ў плячо ідуць беларусы, украінцы, літоўцы і іншыя нацыянальныя меншасці, пражываючыя ў Польшчы, якім народная ўлада дала роўныя правы і стварыла ўмовы да поўнага развіцця сваёй культуры.**

**Што мелі беларусы ў часы санацыйнай Польшчы? На Беласточчыне не было ніводнай школы, ў якой дзеці беларусаў маглі б вучыцца роднай мове. Лічаныя адзінкі здабывалі сярэднюю адукацыю. Вышэйшая адукацыя належала да сферы мар. Галеча і ўціск панавалі ў нашых вёсках. Адкрытымі для нас былі толькі турэмныя вароты.**

**Народная ўлада дала нам чалавечыя правы. Сталі мы роўнымі сярод роўных. Наш селянін з'яўляецца гаспадаром свайго лёсу. Нашы дзеці маюць адкрытую дарогу ва ўсе навучальныя ўстановы краіны. Няма ніякіх абмежаванняў у навучанні роднай мовы і ў развіцці нацыянальнай культуры. Няма ніякіх перашкод для ўдзелу беларусаў у кожнай галіне жыцця Народнай Польшчы. Аднолькава з усімі грамадзянамі Польскай Народнай Рэспублікі сталі мы адказнымі за далейшы шлях развіцця нашай краіны.**

**Усё гэта нам дала народная ўлада. Таму, сустракаючы XV гадавіну Польскай Народнай Рэспублікі, мы павінны яшчэ мацней згуртавацца вакол Фронта Адзінасці Народа, яшчэ актыўней рэалізаваць указанні нашай роднай Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі, якая, кіруючыся ленінскай палітыкай, няўхільна вядзе ўвесь народ да перамогі сацыялізма.**

## Грамадзяне!

ПАДЫМАЙЦЕ ПРАЦОЎНЫЯ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ Ў ГОНАР СВЯТА АДРАДЖЭННЯ!

АРГАНІЗУЙЦЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ СПАБОРНІЦТВА!

СКЛАДАЙЦЕ СРОДКІ НА ПАБУДОВУ ШКОЛ ТЫСЯЧАГОДДЗЯ!

ПАДЫМАЙЦЕ КУЛЬТУРНЫ ЎЗРОВЕНЬ СВАІХ ВЁСАК І ГАСПАДАРАК!

БЯРЫЦЕ АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ У ГРАМАДСКІМ І ПАЛІТЫЧНЫМ ЖЫЦЦІ!

НЯХАЙ ЖЫВЕ СЛАЎНАЕ СВЯТА АДРАДЖЭННЯ, СВЯТА ЎСІХ ПРАЦОЎНЫХ НАШАЙ КРАІНЫ!

НЯХАЙ ЖЫВЕ ПОЛЬСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА — НАША ДАРАГАЯ АЙЧЫНА!

НЯХАЙ ЖЫВЕ ПОЛЬСКАЯ АБ'ЯДНАНАЯ РАБОЧАЯ ПАРТЫЯ — НАШ КІРАЎНІК І НАСТАЎНІК!

**ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА Ў ПОЛЬШЧЫ.**

# ФАКТ РОСТУ

Беларускае грамадска-культурнае таварыства, хаця паволі, але няспынна ўмацоўваецца арганізацыйна і пашырае рады сваіх членаў. Сістэматычна павялічваецца лік гурткоў у вёсках.

У бягучым годзе нашае Таварыства ўпершыню арганізавана прыступіла да адзначэння «Дзён асветы, кніжкі і друку», якія адбываліся ў месяцы маі. Але гэта справа не толькі майскіх дзён. Справы асветы, кніжкі і друку — гэта надзённыя справы на ўвесь год.

У мінулыя майскія дні павятовыя аддзелы нашага Таварыства супольна з павятовымі бібліятэкамі, супольна з дамамі культуры арганізоўвалі выстаўкі беларускай літаратуры пад адным супольным лозунгам: «Чытайце беларускія кніжкі». Падобныя выстаўкі адбыліся амаль у трыццаці вясковых бібліятэках.

Цікавую справу распачаў Павятовы Аддзел БГКТ у Гайнаўцы. Менавіта, было праведзена ў студыі павятовага радыёвузла некалькі размоў з лепшымі арганізатарамі беларускай мастацкай самадзейнасці.

Дні асветы, кніжкі і друку многія гурткі БГКТ сустрэлі літаратурнымі вечарынамі. Падставай для іх быў мантаж беларускай паэзіі, які надрукавала Ваяводская бібліятэка супольна з ГП БГКТ у Беластоку.

Вечары беларускай паэзіі пры дапамозе вясковых настаўнікаў і бібліятэкараў адбыліся ў 14 большых вясковых цэнтрах.

Як бы штуршком да гэтакіх вечарын былі сустрэчы з аўтарамі «Руні» ў Беластоку і Беларускім ліцэі ў Гайнаўцы. 10 мая адбыўся семінар Літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі «Ніва», на якім быў аб'яўлены конкурс на напісанне новых п'ес. Драматычныя творы нашых аўтараў памалу здабываюць сабе права грамадзянства на вясковых сцэнах. Напрыклад, п'еса Івана Чыквіна «Хамелеоны або забароненых смех» была ўжо пастаўлена ў некаторых мясцовасцях. Сустрэлася яна з зацікаўленнем з боку гледачоў.

Вучні беларускіх школ у гэтым годзе таксама належна адзначалі Дні асветы. У многіх школах паявіліся насценныя газеты аб беларускай кніжцы. Лозунгі накшталт «Пазнавайце беларускую літаратуру» не былі ўжо рэдкасцю.

Пачэснае месца ў гэтым своеасаблівым свяце заняла і наша газета «Ніва». Удзелена шмат увагі яе прапагандзе. У вёсках — школах, святліцах і грамадскіх радах паявіліся прапагандовыя плакаты аб «Ніве». Ваяводская бібліятэка супольна з рэдакцыяй арганізавала вялікі літаратурны конкурс.

Ваяводская бібліятэка на бягучы год задэкларавала каля 30 тысяч злотых на закупку новых беларускіх кніжак. З гэтай сумы ўжо рэалізавана каля 8 тысяч зл.

Сёлетнія Дні асветы, кніжкі і друку паказалі відавочнае развіццё беларускай культуры ў Польшчы. Паказалі ўсё ўзрастаючыя культурныя патрэбы беларускага насельніцтва на Беласточчыне. І такія Дні павінны стацца для нас таксама традыцыяй — гадавым паказчыкам нашых дасягненняў.

**Сакрат ЯНОВІЧ**
Інструктар ГП БГКТ

## Новыя матэрыялы аб вызваленчай барацьбе

**Ужо ад наступнага нумара пачнем змяшчаць новыя матэрыялы аб вызваленчай барацьбе насельніцтва Гайнаўскага павета ў часы гітлераўскай акупацыі. Матэрыялы сабраў Барыс Нікіцюк, сакратар Павятовага камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі ў Гайнаўцы.**

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



**НАД РАКОЙ СІДАРКАЙ НА ДУБРОЎШЧЫНЕ.**
фота — В. Баршчэўскі

## МУЗЫКАЛЬНАЯ АСВЕТА МОЛАДЗІ

Дзевяць дзяцей, якія наведвалі музычны гуртох пры гарадскім аддзеле БГКТ, 29 чэрвеня паспяхова здалі экзамен. За час навучання дзеці здабылі некаторыя веды па тэорыі музыкі і ігры на інструменце. Інструктарам гуртка з'яўляецца гр. Кавальчук.

З 1 верасня г. г. музыкальны гуртох будзе працягваць сваю работу. Дзеці, якія атрымалі пасведчанні аб пройдзеным курсе, могуць папаўняць свае музыкальныя веды.

Будуць таксама прымацца і навічкі. З пачаткам новага навучальнага года праца музычнага гуртка пры Гарадскім аддзеле БГКТ значна палепшыцца. Будуць праведзены пэўныя арганізацыйныя змены, якія падцягнуць музычны гурток да ўзроўню музычных школ, якія існуюць на тэрыторыі ўсёй Польшчы. Будзе закуплена таксама пэўная колькасць музыкальных інструментаў.

(пч)

**П. БАРАШАЎ і В. КІТАЦ**




(Дакументальная аповесць, расказаная палкоўнікамі П. Н. Сахаравым і Нагаевым).

22)

Вечарам сястра прынесла бутэльку віна і гарэлкі. Яны ўтраіх сядзелі за сталом. Касцюк слухаў расказ маткі, яе жальбы аб недахопе мужчынскіх рук у хаце і на пытанні сястры, дзе ён думае працаваць — у калгасе ці ў горад вырашыў падацца, няпэўна адказаў:

— Заўтра вырашым. Ты мне заўтра з раніцы купі ватоўку, боты і штаны... А суседзям пакуль пра мяне не гаварыце. Няма мяне...

Раніцай маці паднялася, калі было яшчэ цёмна. Яна насмажыла патэльню бульбяных аладак, якія яе сын так любіў у дзяцінстве, прынесла смятаны, збанок малака і сала.

— Дык як ты надумаўся, у горад працаваць пойдзеш? — запытала старая ў сына.

— Вось што, маці, — адважыўся, нарэшце, Бэн, — не адбываў я кары... Я адтуль, — Касцюк махнуў рукою ў бок пушчы, — з лесу прыйшоў...

— Усе дванаццаць год быў там? — жахнулася старая. — Не... ты маўчы толькі: я з Германіі прыляцеў. Калі мяне ўлады знойдуць — заб'юць. Але я не доўга буду сядзець у вёсцы. Зраблю справу і зноў пайду...

— Якую справу, Генка? — маці села на лаўку побач з сынам і строга глядзела яму ў вочы.

— Ну, мы наогул змагаемся... За шчасце беларускага народа, за нашу зямлю.

— Ды што ж за яго ў лесе змагацца? — не зразумела маці. — Працуй сабе чэсна, вось і шчасце тваё будзе...

— Не, маці, ты старая не разбіраешся...

Увесь дзень старуха моўчкі вазілася каля печкі, размешвала пойла для цёлкі і кабанчыка, мясіла квашню і толькі вечарам, калі сястра прынесла брату купленую адзежу, яна сказала:

— Сынок, схадзі ў сельсавет, заявіся. Не лютая наша ўлада, выбачыць яна табе грахі... А не выбачыць — адбудзеш кару, гаспадаром у хату прыдзеш. Зусім я старая стала, на Насцю якая надзея — замуж пойдзе, хату кіне. Для вас, дзяцей, мы ж з бацькам дабро нажывалі, аб вас думку думалі.

— Маўчы, матка... — панура адказаў Касцюк, перакуліўшы чарку гарэлкі.

Сястра ціха плакала. Яна таксама зразумела адкуль і навошта з'явіўся яе брацік.

— Ды чаго ж мне маўчаць! — узлавалася матка. — Глянь навокал — усе людзі людзьмі жывуць, а ты якой пайшоў дарогаю?.. Хто цябе туды штурхаў, хто вучыў? Бацька чэсна жыў, чэсна памёр, а сын наш... — старая жанчына прыціснула да вачэй падол сукенкі і доўга ўсхліпвала.

— Ды досыць, матка, не раві... Нельга мне ў сельсавет. Разумееш? А гаспадаром сюды я яшчэ вярнуся, убачыш! — злосна адказаў сын. — Давай спаць. Раніца за вечар мудрэйшая... — На вось табе грошай на гаспадарку, — Бэн вылажыў на стол пачку сторублёвак.

Ні матка, ні сястра не дакрануліся да іх.

— Не бойцеся! Не крадзеныя і не фальшывыя, — штучна рассмяяўся Касцюк. — Спаць сцялі, стаміўся я...

Была другая гадзіна ночы, калі Бэн падняўся з лавы.

— Чаго табе, спі! — зашаптала маці. — Можа, кваску прынесці?

— Не трэба... — Касцюк нацягнуў боты. — Схаджу на вуліцу, праветруся трохі. А заўтра ў сельсавет з'яўлюся, спі толькі...

— Дзякуй табе, Госпадзі, — радасна заплакала маці, — зноў у мяне сын будзе...

Але сын яе, Генадзь Касцюк, і не думаў ісці ў сельсавет. Старанна апрануўшыся, закапаўшы адзін пісталет у агародзе, ён ноччу пайшоў з хаты, дзе жыцця яму больш не было. Цяпер ён гэта ясна і канчаткова зразумеў. Таму ён вырашыў яшчэ раз схадзіць на базу, сустрэцца там з Фінам і Карлам і дзесьці шукаць працу.

Палкоўнік Сахараў, які кіраваў аперацыяй па пошуках і захопу Бэна ў Навагрудскім раёне, улічыў, што гэты раён аддзелены ад Налібоцкай пушчы Нёманам, які дыверсанты абавязкова павінны будуць перасячы. На ўсіх мастах і ўздоўж рэк палкоўнік паставіў сакрэты і засады, і аператыўныя работнікі ўважліва сачылі за кожным, хто накіроўваўся ў бок пушчы ці ішоў адтуль.

Ноччу, калі каля першай гадзіны Сахараў яшчэ раз праверыў пасты і засады на Нёмане, ён адчуў, што страшна выгаладаўся.

— Трэба перакусіць! — заўважыў ён лейтэнанту мясцовага аддзялення камітэта дзяржбяспекі.

І яны адправіліся на станцыю Навагрудак у чыгуначны буфет.

Пачаўся дождж. Ён усё ліў і ліў, і ці то ад непагоды, ці то ад стомленасці дрэнна асветленае памяшканне вакзала здавалася зусім няўтульным. У пакоі чакання было чалавек пяць-шэсць пасажыраў і, мінуўшы гэтую залу, Сахараў і яго спадарожнік апынуліся ў невялікім буфеце. У глыбіні яго быў цёмны куток, падобны на рэстаранны кабінет. Ён быў вольны, і Сахараў накіраваўся туды.

Прамокшы ў дарозе, палкоўнік і яго спадарожнік цяпер з прыемнасцю пілі гарачы моцны чай. Зноў ісці на дождж не хацелася.

(Працяг на стар. 3)

# КАНФЕРЭНЦЫЯ
## прысвечаная 15-годдзю ПНР

5 ліпеня ў Бельску мясцовы аддзел нашага Таварыства арганізаваў канферэнцыю, якая была прысвечана 15-годдзю Народнай Польшчы. У канферэнцыі ўдзельнічалі актывісты Бельскага павета і прадстаўнікі ўлад.

Прысутнічала каля 100 асоб. З дакладам выступіў старшыня Бельскага аддзела БГКТ Кастусь Майсеня. Ён паказаў дасягненні Польскай Народнай Рэспублікі на шляху пабудовы сацыялізма і ў тым ліку беларусаў Бельшчыны.

Дакладчык, між іншым, падкрэсліў, што добрыя вынікі працы гарантуюць прыкладнае сужыццё паміж насельніцтвам польскім і беларускім.

Сябра Майсеня звярнуў таксама ўвагу і на недахопы ў нашай працы, на нізкі ўзровень сельскагаспадарчай культуры ў нашых вёсках.

«Трэба ўсё зрабіць, — гаварыў дакладчык, — каб у кожнай вёсцы, дзе ёсць гурткі БГКТ, у першую чаргу паўсталі сельскагаспадарчыя гурткі, каб яны былі прыкладам для іншых вёсак. Трэба нашай арганізацыі ўсё зрабіць, каб слушныя пастановы II Пленума як найхутчэй увясці ў штодзённае жыццё».

У дыскусіі выступіла 21 асоба. Між іншым, з разгорнутай прамовай выступіў старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства Уладзімір Станкевіч. Ён гаварыў аб заданнях, якія стаяць перад Таварыствам у галіне рэалізацыі пастаноў III З'езду і II Пленума нашай партыі.

Выступленне старшыні прысутныя слухалі з вялікай увагай. З неменшай увагай былі выслуханы прамовы старшыні Павятовай рады ў Бельску тав. Навакоўскага і прадстаўніка Ваяводскай рады, тав. Фядаровіча.

Канферэнцыя мела рабочы характар, абмяркоўваліся канкрэтныя гаспадарчыя, асветныя і культурныя справы Бельшчыны і павінна прычыніцца да актывізацыі нашай дзейнасці.

Вельмі добра, што на канферэнцыю былі запрошаны старшыні грамадскіх рад, солтысы і настаўнікі польскай нацыянальнасці. Гэта, несумненна, яшчэ мацней зблізіць дзве нацыянальнасці ў рэалізацыі супольнай мэты — пабудовы сацыялізма ў нашай краіне.

(рл)

# З ПАСЯДЖЭННЯ
## Беластоцкага аддзела БГКТ

1-га ліпеня г. г. адбылося чарговае пасяджэнне праўлення Беластоцкага аддзела БГКТ. На ім быў абмеркаваны план працы аддзела да канца г. г. і прыдзелены кожнаму члену праўлення канкрэтныя заданні ў працы. Між іншым, план працы прадбачвае павялічыць лік членаў таварыства ў Беластоку да 450 асоб і падпісчыкаў «Нівы» да 250 асоб.

У сувязі з тым, што старшыня праўлення аддзела, сябра С. Яновіч, распачаў працу інструктарам ГП БГКТ, старшынёй праўлення выбраны сябра Язэп Маркоўскі, а намеснікам старшыні — Фёдар Садоўскі.

(вб)

# НА ЗАХАДЗЕ НЯМА ЗГОДЫ

13 ліпеня ў Жэневе пачынаецца другі этап канферэнцыі міністраў замежных спраў, прысвечанай германскім праблемам. Заходні друк займаецца і далей ацэнкай гэтай незвычайна важнай канферэнцыі. Некалькі дзён таму назад заходнегерманская газета «Кёльнішэ Руншау» пісала: «Першая фаза Жэнеўскай канферэнцыі нічога не вырашыла, але закончылася на карысць Хрушчова. Савецкі Саюз не ўступіў ні на крок, у той час, калі Захад, высоўваючы свае апошнія прапановы, пайшоў так далёка, што далей пайсці ўжо не зможа.»

Фармуліроўкі «Кельнішэ Руншау» вельмі хітрыя. Газета, з аднаго боку прызнае ў канцы канцоў перавагу савецкай дыпламатыі, з другога боку, стараецца паказаць чытачам, што міністры Захаду крок за крокам ішлі на ўступкі. У сапраўднасці было зусім інакш. Вядома, што ўспомненыя газетай апошнія прапановы не ўносілі нічога новага. Пацвердзілі яны неабходнасць захавання акупацыйнага статуту ў Заходнім Берліне, толькі пры нязначным змяншэнні акупацыйных войск.

Артыкулы большасці заходнегерманскіх газет прытрымліваюцца пагляду «Кёльнішэ Руншаў». Іх мэтай з'яўляецца ўмацаванне становішча трох заходніх дзяржаў у часе другога этапу канферэнцыі.

Яшчэ ніколі на Захадзе не выяўлялася так востра розніца поглядаў паміж дзяржавамі, якія належаць да атлантычнага пакта. Несумненна, найбольш варожую пазіцыю ў адносінах да ўсякіх намаганняў, каб паслабіць напружаннасць у Еўропе, захоўвае і надалей канцлер Адэнаўэр. У апошнія дні ён зрабіў вельмі хітры манёўр. Менавіта, ён выслаў ліст да англійскага міністра замежных спраў Сэльвіна Лойда, у якім выказвае яму падзяку за абарону супольных інтарэсаў Захаду ча Жэнеўскай канферэнцыі. Як вядома, англійскі міністр якраз аказаўся ў Жэневе палітыкам найбольш эластычным сярод заходніх міністраў. Такім чынам, ліст Адэнаўэра гучыць, як іронія. Аднак, мяркуюць, што ён меў на мэце змяніць англійскае становішча. Прэм'ер урада Вялікабрытаніі Макмілан сёння яшчэ выказваецца за спатканне кіраўнікоў урадаў чатырох дзяржаў незалежна ад вынікаў працы Жэнеўскай канферэнцыі. Канцлер ФРГ хацеў бы за ўсякую цану не дапусціць да такога спаткання, таму што магло б яно прынесці вынікі, спрэчныя з яго мілітарнай і рэваншысцкай палітыкай.

Калі ўжо гаварыць аб палітыцы канцлера Адэнаўэра, варта дадаць яшчэ некалькі сказаў з заходнегерманскага друку: «Даўно ўжо гаварылася, што шпігалі з'яўляюцца важнейшымі, чым казармы. Ужо тады гэта была няпраўда. Сёння гаворыцца, што аўтамабілі, тэлевізары і халадзільнікі з'яўляюцца важнейшымі, чым зброя. Толькі два члены НАТО маюць іншую думку: амерыканцы і туркі. У той час Заходняя Еўропа не прымае небяспекі сур'ёзна. Такім чынам, застаецца толькі выбар паміж капітуляцыяй і атамнай вайной.»

Гэтыя правакацыйныя словы не патрабуюць каментарыяў. Гучаць яны, як заклік, паскорыць узбраенні галоўным чынам у ФРГ.

Калі гаварыць аб другім этапе Жэнеўскай канферэнцыі, то і надалей мы назіраем непакоячы нас уплыў бонскай палітыкі на кіраўнікоў заходніх дзяржаў. На апошняй прэс-канферэнцыі прэзідэнт Эйзенхаўэр выказаў думкі, якія павінны цешыць канцлера Адэнаўэра. На пытанне журналістаў, ці стаіць ён за скліканне канферэнцыі на вышэйшым ўзроўні, адказаў, што спатканне кіраўнікоў урадаў было б не мэтэзгодным, калі б Жэнеўская канферэнцыя не дасягнула ніякіх станоўчых вынікаў. Погляды на далейшы шлях канферэнцыі ў Жэневе прывялі да прынцыпіяльнага разыходжання паміж Вашынгтонам і Лонданам. З боязні, каб разыходжанні гэтыя не выявіліся акурат у часе працы, бельгійскі і італьянскі ўрады звярнуліся да савета пакта НАТО з прапановай аб папярэднім абмеркаванні становішча Захаду.

Гэты апошні факт найлепш пацвярджае перамогу савецкай дыпламатыі, якая адзначаецца паслядоўнасцю і рашучасцю.

Трэба чакаць, што ў другім перыядзе Жэнеўскай канферэнцыі гэтыя прынцыпы акажуцца трыумфальнымі.

УЛАДЗІМІР ЛАЗІНСКІ

(Працяг са стар. 2)

# Квадрат Б-52

— Можа вып'ем яшчэ па шклянцы? — запытаў Сахарава спадарожнік.

— З прыемнасцю, але трэба ісці. Сагрэемся і так, — стомлена ўсміхнуўся палкоўнік.

Яны пасядзелі яшчэ некалькі мінут і разлічыліся з буфетчыкам.

Варталіся той самай дарогай. Дождж па-ранейшаму барабаніў па лужынах. Насустрач прайшлі двое, потым прамільгнуў яшчэ адзін цень і толькі потым, на допытах, Сахараў даведаўся, што гэты трэці якраз і быў Бэн. Ён ішоў у той жа буфет і сеў за той жа столік.

Калі б Сахараў паслухаўся свайго спадарожніка, калі б заказаў яшчэ па шклянцы чаю, — магчыма, чэкісты сустрэліся б з Бэнам у буфеце і, хто ведае, можа і не прыйшлося б зноў ісці туды, дзе другія суткі чакала Бэна аператыўная група Сахарава.

А размясцілася гэтая група на мосце праз Нёман, што каля вёскі Купіскай. Мост гэты не рамантаваўся ўжо многа год і не раз, застраўшы на старых бярвеннях, гарачыя шафёры пасылалі ў адрас згніўшага моста і мясцовых улад моцнае «добрае» слова. Усе ведалі, што мост даўно ўжо трэба было аднавіць, і некалькі дзён таму назад з'явілася група рамонтных рабочых. Увесь дзень візгаталі пілы, стукалі сякеры і шафёры, асцярожна праязджаючы па двух плахтах, прыветна пахвальвалі рабочых.

— Хутчэй, братцы! Ураджай возім, дарога моцна патрэбна!

А брыгада не спяшалася, як быццам бы не была задаволена сваёй работаю, хоць новы мост і вышаў цудоўны.

У рамонтнікаў былі прычыны заставацца незадаволенымі сваёй працай: усё яшчэ не было таго, каго яны чакалі. І яны цярпліва ўсё рамантавалі мост, старанна абцёсвалі бярвенні, паставілі новыя поручні і нават збіраліся зрабіць пешаходную дарожку, калі раніцай адзін з іх заўважыў паволі ідучага да моста мужчыну.

Невядомы наблізіўся. Гэта быў каржакаваты мужчына. З-пад ватоўкі відаць быў цёмны світэр, клятчатая шапка была нацягнута на самыя вушы, а шэрыя штаны заправлены ў новенькія боты. Невядомы падышоў да моста, і «рамонтнік» разагнуўся, адлажыў у бок пілу і запытаў:

— Ці не маеш, браток, запалак? Курыць смерць як хочацца, а нашы, як на грэх, адсырэлі. Чыркаў, чыркаў — ніяк не загараюцца. Праклятыя дождж усё вымачыў.

Невядомы неахвотна палез у кішэнь і паволі выцягваў руку. Адна секунда, другая...

За гадзіну да гэтай сустрэчы чэкісты западозрылі аднаго грамадзяніна, сходнага з прыметамі Бэна па адтапыраных вушах. У гэтага вушы былі прыціснуты пад шапку, што паказалася дзіўным, і аператыўныя работнікі вырашылі праверыць дакументы невядомага.

— Далёка ідзяцё? — працягваў размову «рамонтнік».

Чалавек у ватоўцы адказаў неадразу.

— Іду за сенам, — і апусціў руку ў правую кішэнь.

— Эй, дзядзька, прад'яві дакументы!

Невядомы, здавалася, не зразумеў. Прыйшлося паўтарыць патрабаванне, і, калі невядомы хацеў выхапіць руку з кішэні, ззаду нехта моцна заціснуў яе.

— Так, — сказаў «рабочы», разглядаючы пашпарт і ваенны білет, — гэтыя паперкі трэба было б праверыць...

Затрыманы рвануўся, нахіліў галаву, але ў той жа момант яго шыю сціснула, як абручом, моцная рука, а лейтэнант Раманoвіч, які стаяў побач, схапіў за каўнерык кашулі. Пальцы яго намацалі невялікую трубачку, зашытую ў каўнерыку. Гэта была ампула з ядам, якім па інструкцыі павінны былі карыстацца шпіёны ў выпадку правалу.

Бэн — а гэта быў ён — зразумеў: выхаду няма, і не стаў супраціўляцца. У яго тут жа на мосце адабралі пісталет з патронамі і запасной абоймай, грошы і нож. І тут жа на мосце, Бэн прызнаўся, што ён — адзін з дыверсантаў, закінутых амерыканскай разведкай у ноч з 26 на 27 жніўня ў раён Налібоцкай пушчы, куды ён ідзе на сустрэчу з Карлам і Фінам.

— Ну што ж, — сказаў палкоўнік Сахараў, — першая птушка ў клетцы. Чарга за другою...

## АПОШНІ З ЧАЦВЁРКІ.

Яны доўга рухаліся праз гушчар, перш чым Арцюшэўскі, які да канца дарогі стаў зусім спакойным, знайшоў чуць прыкметную засечку на белай бярозе і скрочыў у бок, у кусты. Чэкісты кінуліся за ім. Ён спыніўся і проста засмяяўся:

— Не бойцеся, не ўцяку...

— Гэта мы ведаем! — суха адказаў Сянкевіч.

Арцюшэўскі ўпэўнена павярнуў налева і вышаў на невялікую, метраў у пяць шырыні, лагчынку. Маўклівыя бярозы стаялі навокал беластвольным карагодам, дзесьці дробна стукаў дзяцел, шмыгала непаседа - вавёрка

— Вось тут... — ціха сказаў Арцюшэўскі.

Пад пластом дзёрну чэкісты знайшлі квадратную яму, акуратна высцеленую брэзентам. Адчувалася, што запасная рацыя, каробкі з медыкаментамі, два аўтаматы і патроны да іх ляжалі там некранутымі. Толькі спальны мех быў нервова пакамечаны і паспешна кінуты ў яму.

Пакроўскі, які далучыўся да групы яшчэ раніцай, страсянуў мяшок, і белы кавалак паперы зваліўся на траву. Ён разгарнуў яго, прачытаў і тут жа звярнуўся да Сянкевіча:

— Таварыш палкоўнік, запіска.

Сянкевіч узяў паперу. «Бэн, нас, здаецца, выкрылі. Каля бярвення спаткаў падазроную групу. Пайшоў незаўважаным. Дзе Фін? Сустрэнемся на месцы нашага прызямлення. Думаю, што там шукаць не будуць. Сігнал манком. Карл».

— Ён правільна вырашыў — на месцы іх прызямлення мы шукаць не думалі. Ну што ж, пойдзем туды. Вы знойдзеце месца? — запытаў ён у Арцюшэўскага.

— Думаю, што знайду. Дайце карту...

Арцюшэўскі доўга разглядаў карту, потым абвёў пазногцем раён паўднёва-заходняй вёскі Клецішча і сказаў:

— Тут...

— Таварышы Волкаў і Александровіч, вы застанецеся тут. На кожны выпадак... А мы тэрмінова едзем на месца высадкі. Трэба падрыхтаваць сустрэчу.

(Працяг будзе)

А. С. Бархаткаў — Першая песня.

Карэспандэнцыя з Мінска

# ДЗЯРЖАЎНЫ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ БССР



П. Н. Гаўрыленка — Эшалон ідзе.

У 1923 годзе дэкрэтам урада Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў Мінску быў заснаваны Беларускі дзяржаўны музей. Ён меў пяць аддзелаў: гісторыка - археалагічны, нумізматычны і сарагітычны, этнаграфічны, царкоўна - археалагічны і мастацкі. Музей меў аддзяленні ў гарадах: Віцебску, Магілёве і Гомелі з вялікімі калекцыямі каштоўных экспанатаў, у тым ліку твораў выяўленчага мастацтва беларускіх, рускіх і заходнееўрапейскіх майстроў.

У 30-ых і 40-ых гадах, у сувязі з далейшым развіццём культурнага будаўніцтва ў Беларускай рэспубліцы і ўзросшымі духоўнымі запатрабаваннямі народа, наяўнасць у Дзяржаўным музеі мастацкага аддзела не адпавядала задачам дня. Таму ўрад Беларускай ССР 24 студзеня 1939 года вынес рашэнне адкрыць у сталіцы рэспублікі — Мінску Дзяржаўную карцінную галерэю БССР. Для галерэі быў адведзены адзін з лепшых будынкаў у цэнтры горада, на вуліцы Карла Маркса. Ёй было перадана многа твораў выяўленчага мастацтва, якія належалі раней Беларускаму дзяржаўнаму і іншым музеям рэспублікі. Брацкую дапамогу карціннай галерэі аказалі музеі Масквы і Ленінграда, выдзеліўшы са сваіх фондаў значную колькасць твораў рускіх майстроў.

Галерэя набыла значэнне буйнага цэнтра беларускай культуры, дзе была сабрана багатая мастацкая спадчына і творчасць сучасных майстроў. Усё гэта дазваляла прасачыць складаны і арыгінальны працэс станаўлення і развіцця выяўленчага мастацтва з усімі яго нацыянальнымі асаблівасцямі. Галерэя стала навуковай лабараторыяй, дзе даследавалася і вывучалася выяўленчае мастацтва Беларусі на аснове марксісцка - ленінскай метадалогіі.

Такім чынам, Дзяржаўная карцінная галерэя БССР перад Вялікай Айчыннай вайной уяўляла сабой буйную скарбніцу мастацтва сярод іншых музеяў Савецкага Саюза. У 1940 годзе ў залах галерэі з вялікім поспехам прайшла першая мастацкая выстаўка твораў беларускіх майстроў.

Вялікая Айчынная вайна з усімі яе бедствамі пакінула непапраўную разруху і ў галіне мастацтва. Былі знішчаны помнікі архітэктуры, палацы, музеі. Частка лепшых твораў была вывезена ў Германію. Назаўсёды загінулі творы жывапісу, скульптуры, народна - прыкладнога мастацтва, якія захоўваліся ў галерэі. Дастаткова ўспомніць, што 32 унікальныя слуцкія паясы (вытворчасць мануфактуры, атрымаўшай яшчэ ў XIX стагоддзі сусветную вядомасць), зніклі амаль усе.

Аднак, ні пагубная вайна, ні варварства нямецка - фашысцкіх акупантаў не зламала гераізму савецкага народа. Яшчэ дыміліся спаленыя гарады, вызваленыя Савецкай Арміяй, а ўжо нараджалася зноў жыццё заводаў, фабрык, дзяржаўных культурных устаноў. У 1944 годзе ўрад рэспублікі вырашыў аднавіць Дзяржаўную карцінную галерэю, выдзеліўшы для гэтага неабходныя сродкі. У верасні 1945 года галерэя была адкрыта выстаўкай прац беларускіх мастакоў, а адразу за ёю была адкрыта і пастаянная экспазіцыя двух аддзелаў — рускага і савецкага мастацтва. ЦК партыі і ўрад БССР праяўляюць сталыя клопаты аб нацыянальнай скарбніцы мастацтва. У 1957 годзе ў цэнтры горада, на вуліцы Леніна, для галерэі быў пабудаваны музейны будынак.

У сувязі з пашырэннем функцый галерэі, яна была перайменавана ў Дзяржаўны мастацкі музей БССР. Цяпер там ёсць аддзелы: рускага, беларускага, заходняга, усходняга і народна - прыкладнога мастацтва.

 

# 25 гад вясковым настаўнікам

1-га студзеня 1919 года ў Мінску адбыўся Першы Усебеларускі з'езд, на якім была вынесена пастанова аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Адным з дэлегатаў на гэты гістарычны з'езд быў малады настаўнік — бежанец з Кнаразоў на Бельшчыне



Нестар Перавой.
Фота — З. Зарэмба

Нестар Перавой. Сустрэўся ён тут з Янкам Купалам, Якубам Коласам і іншымі вядомымі дзеячамі беларускага народа, слухаў іх палымяныя прамовы.

У 1922 годзе Нестар Перавой вярнуўся ў свае родныя Кнаразы. Але санацыйныя ўлады не далі дазволу Перавою вучыць дзяцей. Такі чалавек быў для іх небяспечны. І тады малады настаўнік распачаў працу на бацькоўскай невялікай гаспадарцы. З часам Перавой становіцца актыўным дзеячом «Грамады». За часы савецкай улады Нестар Перавой ізноў распачынае працаваць настаўнікам у Масяве, Гайнаўскага павета. У час нямецкай акупацыі Нестар Перавой за супрацоўніцтва з партызанамі, як і іншыя жыхары вёскі, быў вывезены пад Валкавыск. Тут яму давялося пасядзець у нямецкім лагеры.

Зараз жа пасля вызвалення Нестар Перавой становіцца кіраўніком пачатковай школы ў Зубаве, Бельскага павета. Будучы настаўнікам, ён разгортвае грамадскую дзейнасць сярод сялян. Арганізуе славуты на ўсёй Беласточчыне гурток мічурынцаў і вельмі актыўны гурток мастацкай самадзейнасці. Экспанаты, выращчаныя на доследных участках зубаўскіх мічурынцаў неаднойчы займалі першае месца на сельскагаспадарчых выстаўках у Бельску. Нестар Перавой стаў вядомым у краіне. Ён штодзённа з розных куткоў краіны атрымоўваў шмат лістаў з просьбай аб той ці іншай парадзе ў вырошчванні «тапінамбура», або нейкай іншай расліны.

За актыўную грамадскую дзейнасць урад узнагародзіў Нестара Перавоя «Сярэбраным крыжам заслугі» і «Медалем дзесяцігоддзя».

У 1958 годзе, пасля 25-гадовай працы настаўнікам, Нестар Перавой перайшоў на пенсію. Ён цяпер жыве ў Бельску. Далей праводзіць доследныя працы ў сваім агародзе. І хоць Нестару Паравою ступіў ужо 74-ы год, ён і далей не пакідае грамадскай дзейнасці. Нестар Перавой з'яўляецца членам павятовага праўлення ТППР і актыўным карэспандэнтам «Нівы». (вб)

# СЯБРОЎСКАЯ ДАПАМОГА

*Гэтымі днямі актывісты Бельскага Аддзела БГКТ арганізавалі гурток Таварыства ў суседнім — Гайнаўскім павеце, у вёсцы Альхоўка. Старшынёю выбран Іван Скепко, сакратаром Міхась Галабурда і касірам — Ніна Раманчук.*

Усіх разам уступіла ў Беларускае таварыства 18 асоб.

Ужо на першым сходзе гуртоўцы пастанавілі яшчэ перад жнівамі пабудаваць «патэльню» — танцавальную пляцоўку. Задэкларавалі таксама актыўную дапамогу пры будове новай школы ў іх вёсцы. (ся)

# Агляд мастацкіх гурткоў у Нарве

Павятовае Праўленне ЗМВ і Аддзела Беларускага таварыства ў Гайнаўцы наладзілі агляд беларускіх драматычных гурткоў, які адбыўся 28 чэрвеня ў зале кіно «Мелодыя» ў Нарве. Гэтая імпрэза выклікала ажыўленае зацікаўленне ў жыхароў мястэчка і навакольных вёсак.

У аглядзе прынялі ўдзел лепшыя драматычныя гурткі Гайнаўшчыны. Гурток з Навасад даў пастаноўку п'есы Эдуарда Валасевіча — «З носам», гурток з Махнатаў выступіў з старадаўняй беларускай камедыяй А. Чужыніна — «Пярэстая Красуля» і артысты — аматары з Ласінкі паказалі п'есу Алеся Пальчэўскага — «Суседка».

Паміж пастаноўкамі спяваліся беларускія і рускія песні.

Многа «біс» сабрала таленавітая пара спявачак — Валя Тышук і Марыся Якубіч з Волькі Тэрахоўскай. Выступіла таксама пара спявачак з Махнатаў — Марыся Пасынюк і Валя Сельвесюк.

Журы гэтага агляду першага месца не прызнала. Другім месцам падзяліліся гурткі з Махнатаў і Ласінкі. Трэцяе месца заняў драматычны гурток з Навасад. За добрую акторскую ігруганаровыя дыпломы атрымалі Жэня Янюк з Махнатаў і Іван Гінцт з Навасад. Апрача гэтага 19 артыстаў - аматараў атрымала беларускія кніжныя ўзнагароды. У тым ліку 8 экземпляраў зборніка «Рунь» з дэдыкацыямі ад яе аўтараў.

З дэкламацыяй свайго верша аб Нарве выступіў Мікалай Галёнка з Навасад.

Канферанс'е выдатна вёў сябра Казак з Аддзела БГКТ у Гайнаўцы.

Нягледзячы на пэўныя арганізацыйныя недахопы, гэты агляд пакінуў добрае ўражанне.

(ся )

# УВАГА МАТУРЫСТЫ

Як толькі трэцяя ў краіне школа гэтага тыпу — двухгадовы Тэхнікум рольнага рахункаводства і рольных абсталяванняў адкрываецца з пачаткам новага навучальнага года ў Бельску, вул. Галавеская 10.

У тэхнікум могуць паступаць выпускнікі агульнаадукацыйных ліцэяў перад усім з Беластоцкага ваяводства. Тэхнікум будзе рыхтаваць спецыялістаў па рольнай юрысдыкцыі (prawo rolne) і спецыялістаў па рольных абсталяваннях (urządzenia rolne). Выпускнікі тэхнікума атрымоўваюць дыпломы тэхніка і працу ў дзяржаўных рольных гаспадарках і рольных установах краіны. Моладзь з па-за Бельска мае магчымасць атрымаць кватэру ў інтэрнаце. У залежнасці ад матэрыяльнага становішча вучня і яго поспехаў у вучобе ёсць магчымасць атрымаць стыпендыю.

Асноўнай умовай прыняцця ў тэхнікум з'яўляецца заканчэнне агульнаадукацыйнага ліцэя, або іншай сярэдняй школы з атрыманнем матуральнага пасведчання.

Прыняццё — без уступных экзаменаў.

Усім выпускнікам — матурыстам, хто цікавіцца сельскай гаспадаркай і хоча ў будучыні працаваць у гэтай галіне, раім неўзабаве пасылаць заявы ў тэхнікум. (МГ)

# Ш К О Л Е

гадовыя курсы спулдзельчага і гандлёвага рахункаводства, шыцця і крою, абслугоўвання складаных рольных машын, як трактары, малацільныя агрэгаты, а таксама аўтамабільнага парку. Дарэчы тут будуць двух - трохгадовыя курсы агародніцтва, паляводства, гаспадаркі сенажацяў (лонкарства).

Словам, трэба зрабіць усё, каб выпускнік адзінаццатага класа меў грунтоўную агульную падрыхтоўку і кваліфікацыі да працы ў адной з абраных сабой галін: спулдзельчы і дзяржаўны гандаль, рахункаводства, праца ў кравецкіх спулдзельнях, каб мог быць рольным механікам і быў добра падрыхтаваны да вядзення рольнай гаспадаркі .

Здаецца, што станоўчае значэнне такога мерапрыемства ў агульнадзяржаўным маштабе не патрабуе доказаў.

### ТРЫУМФ ПЕДАГАГІЗАЦЫІ

Калі ў агульнаадукацыйных ліцэях адчуваецца недахоп кандыдатаў у восьмыя класы (напрыклад, у Міхалове да 20 чэрвеня было толькі 15 чалавек на неабмежаваную колькасць вольных месц), дык у Педагагічны ліцэй у Бельску ў гэтым годзе накіравалася ў першы клас рэкордная іх колькасць — 190 ахвотных паступіць на 90 вольных месц. Пры гэтым сярод кандыдатаў у Педагагічны ліцэй маецца непараўнальна большая, чым дагэтуль колькасць хлопцаў. Агульная ж падрыхтоўка паступаючых значна лепшая, чым у мінулыя гады. Пры тым відаць, што ў Педліцэй накіроўваюцца самыя лепшыя выпускнікі пачатковых школ.

Тое, што моладзь пачатковых школ марыць прысвяціць сваю будучыню працы на настаўніцкай ніве і імкнецца здзейсніць свае мары, паступаючы ў педагагічныя ліцэі, — факт для нас знамянальны.

Гэта выраз таго, што праца настаўнікаў у вёсцы і ў горадзе здабывае ў нас штораз большую пашану. Пасля некалькігадовага застою ў гэтай галіне, дзякуючы апецы, якой акружылі партыя і ўрад працу настаўніка, іменна яна, побач з працай лекара, з'яўляецца самай амбітнай у нашым асяроддзі. Больш таго, не толькі лік ахвотных быць настаўнікам, але і атмасфера ў пачатковых школах і нават ліцэях гаворыць аб тым, што ідэя педагагізацыі ў нашым жыцці здабыла правы жыцця і з'явілася надзённай. Такім чынам, пасля неакрэсленых бліжэй імкненняў нашай моладзі настаў час, калі яе ідэі і будучыня вяжуцца з канкрэтнай працай на ніве народнай асветы. Навука не для навукі, а для жыцця і павышэння культурнага ўзроўню шырокіх мас насельніцтва — вось дэвіз нашай моладзі. Гэта нас толькі цешыць.

### ЖЫЦЦЁВАЙ МЭТАЙ — КАНКРЭТНЫ ФАХ

Здараецца пачуць з вуснаў старэйшага пакалення нараканні, што нашую моладзь кранула зараза экзыстэнцыяналізму, грубага практыцызма. На нашу думку, крыўдным было б бачыць у імкненні моладзі як мага хутчэй выйсці на самастойны матэрыяльны шлях жыцця толькі грубы практыцызм, недахоп душэўнага ўзлёту. Якраз наадварот, перамога ў моладзі настрою хутчэй прыступіць да самастойнай працы — сведчыць аб канкрэтызацыі яе жыццёвых ідэй. Гэтая ж з'ява наскрось пазітыўная.

Нашае маладое пакаленне хоча быць як мага хутчэй прыгодным да рэалізацыі агульнанародных ідэй пабудовы лепшага заўтра. Сваю ролю яно асэнсоўвае вельмі практычна. Заданне ж нашага старэйшага пакалення — зрабіць усё магчымае, каб наша моладзь была адданым і актыўным будаўніком гэтага светлага заўтра — сацыялістычнага грамадства.

мгр. М. ГАЙДУК



 

 




# САЛОМА

У вёсках салома — рэч неабходная, не разумеюць гэтага толькі людзі, у якіх галовы саломаю набітыя.

Салома ўжываецца на падсцілку, каб каровы, коні і свінні аб сабе клопаты адчувалі. Саломай прыкрываюць гародніну, якую закопваюць на зіму, з саломы рэжацца сечка, але саламяныя ўдовы і ўдаўцы робяцца без саломы.

У многіх вёсках саломы бракуе да першага ўраджаю.

У падваршаўскіх, лодзінскіх і кракаўскіх вёсках людзі ахвотна купілі б салому, ды прадаваць яе ніхто не бярэцца.

У ГС-аўскіх пунктах скупу купляюць сена, а ад саломы нос адварочваюць.

Гавораць, не варта скурка вырабу.

Пакупная цана саломы — 45 зл. за цэнтнер, а прадажная — 65 зл., таму нарыхтоўшчыкі сароміяцца перавозіць салому па чыгунцы, пазбягаючы гэтым самым пагрузкі — выгрузкі.

У нас прывыклі абмяжоўвацца сціплым заробкам — грош на грош, а для падобнага заробку з саломай выходзіць саламяны інтэрас. Сена прадаецца па 80 зл. за цэнтнер, таму не выпадае браць з пакупнікаў за салому столькі ж.

Хаця Беласточчына мае лішкі саломы, салома якая не падарожнічае за межы нашага ваяводства, хаця ў многіх месцах на весну коні і каровы сумуюць без саломы.

Чытаючы газеты, мы ведаем, як многа работнікаў у сельгаскааперацыі і гандлі спадаюць са сваіх становішчаў. Калі б была ў ГС-ах салома, гэтыя людзі маглі б, падаючы, саломку падаслаць, і тады не так страшна было б падаць.

Саламяная праблема ў ГС-ах згарае без дыму, як саламянае каханне.

Нашым нарыхтоўшчыкам салома ў нас коле.

З саломы можна сплясці трывалыя жгуты. Даць бы каму трэба 25 жгутоў па мяккім месцы, тады, магчыма, і ўзрасло б зацікаўленне саломай.

Коні, напрыклад, гавораць аб саломе становўча, прыпамінаюць, што сечка, пасыпаная густа вотруб'ем з'яўляецца першакласнай патравай. Нашыя гандлёвыя работнікі ў госці да коней не ходзяць, патравы гэтай не ведаюць, таму і адносяцца да саломы іранічна.

Мне здаецца, што пакуль у нас не пачнуць узнагароджваць гандлёвых дзеячоў саламянымі ордэнамі, мы зацікаўленасці да саломы не ўзбудзім і саламянага пытання з месца не рушым.

Дзядзька Лявонь

Уладзімір КОРБАН

# ПАМОЧНІЦА



Байка

Калі спытаці:
Хто першая памочніца ў маці? —
Любы адкажа: «Што за навіны! —
Вядома, што дачушка! Хіба ж дзіва?

І асабліва,
Калі яна
Адна».

Напрыклад, у сям'і дачушак трое
І ўсе яны памочніцы ў маці сапраўды.

А як адна дачушка, тады

Матуля тупае ўвесь дзень ад ранку,

Дачушка ёй прысесці не дае.
Ператварылася матуля для яе

У самую звычайную служанку.

Прызнацца, мы нядаўна чулі,
Што ў гэтым вінаваты і матулі...

### О, НЕ!

— Чуў ты? Міхась ажаніўся. Трэба павіншаваць іх.

— О, не! Яго не павіншую, бо яе не знаю, а яе не павіншую, бо яго добра знаю...

### ЦІ НЕ ЗАШКОДЗІЦЬ?

— Для мяне мужчыны не маюць ніякага значэння. Яны мне як нішто, як паветра...

— А ці не зашкодзіць табе, мая мілая, частая змена паветра?

### ДЖЭНТЛЬМЕН

Маці гаворыць хлопчыку:
— Глянь на свае ручкі... Што б ты сказаў, каб я з такімі рукамі падышла да стала?

— Нічога б я, мамка, не сказаў, бо я добра выхаваны.

Ч.

### НЕДАЧУЛА

Жанчына купіла ў гаспадара кілаграм яблык за 5 зл.

— Бярыце яшчэ, гэта каштэлі, — параіў гаспадар.

— А, калі па чтэры, дык яшчэ 2 кілаграмы.

### ЗАЗНАЙСТВА

Прахожы затрымаўся ў дзвярах крамы і паглядзеў на паліцы.

Прадаўшчыца: — Што я вам люстэрка, што кожны ідзе і ўсё паглядае на мяне?

### У КАЗАРМЕ

— Радавы Пяхотка, вы пойдзеце на два дні ў арышт, за тое, што не аддалі чэсці афіцэру.

— Дык ён жа самы лепшы мой сябра.

— Усёроўна. Нават калі б гэта быў ваш родны бацька, то шанаваць яго трэба.

Ч

## Народныя жарты

### РАЗМОВА

— А што, быў на вяселлі? — пытае Грыша ў Міхася.

— Ой, дзе там, — адказвае той, — маладуха была такая прыгожая, што аж спалохаўся.

### ЗА СТАЛОМ

Два сыны і бацька селі за сталом і размаўляюць. Бацька навучае, як што рабіць на гаспадарцы, а сыны заглядзеліся ў акно на дуб.

Адзін кажа: — Ой, які гэты дуб цяпер зялёны.

Другі кажа: — Ой, які гэты дуб высокі.

— А каб вы на ім павешаліся, — разгневаўся бацька

Прыслаў
**Уладзімір СЦЕПАНЮК**
Давідавічы
Бельскі пав

### ВЫХІТРЫЛА

Вінцук да Марысі, якая доіць карову: — Марыся, многа малака надаіла?

Марыся: — Не ведаю, бо вядро дзіравае.

Прыслаў
**Янка ПЛЕВА**
Ласінка
Гайнаўскі павет

## У ВОЛЬНЫМ СВЕЦЕ



— Паркэр, у мяне вельмі тэрміновая работа, зрабі некалькі сот паведамленняў аб звальненні.

(Англійская газета «Дэйлі Уоркэр»).

## ЭПІГРАМЫ

### СЛЯПЫ

. . . Алёша — муж Агнеты
Хваліў сваёй жонкі прыкметы.
Ды не бачыў зусім,
Што патомства якраз не па ім.

* * *

### ДЗІЎНЫЯ

. . . Усе кажуць: „Жонка малалая
І вельмі добра з ім жыве"
А не бачаць яны і не знаюць,
Што сядзіць на яго галаве.

## ГАСЦІННЫ МУЖЫК

Заехаў мужык да сына на фабрыку, пабыў у яго крыху і пайшоў. Захацелася паесці мужыку. Спыніў ён міліцыянера і пытае, дзе б тут з'есці што-небудзь.

Міліцыянер паказаў яму сталовую. Зайшоў мужык у сталовую ў шапцы-вушанцы, кажусе і ў валёнках. Заказаў сабе халадзец, катлеты і бульбу. Еў, еў катлеты, аж нарэшце з'еў. Расшпіліў пояс і кажух — стаў есці бульбу. З'еўшы бульбу, скінуў кажух і шапку. Урэшце з'еў халадзец і выкарнуўся на крэсле. Афіцыянты ўжо думалі, што мужык памірае, але той паляжаў, адзеўся і збіраецца выходзіць. Ажно тут загарадзілі яму дарогу і сказалі плаціць за абед.

Здзівіўся чалавек.

— Я ж пры сабе ні граша не маю, — гаворыць. Прыязджайце да мяне на Пятра і Паўла, я вас тры дні буду карміць і паіць і ў большы вугал пасаджу і граша не вазьму.

**МІКОЛКА МІКАЛАЮК**
в. Войшкі
Бельскі павет

## АДГАДАНКА

-ы-а-ц-з-а-о-ы
-ы-і-е-о-а-а

Замест крэсак пастаў адпаведнія літары. Атрымаеш пачатак вядомай беларускай народнай развітальнай песні. Адказы дасылаць да 25 ліпеня.

Сярод удзельнікаў будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод.

К.

 